

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№495 Красавік 2004 г.
Год выданьня 54

## Прага вітала Старшыню Рады БНР

Калі восем гадоў таму разам з Зянонам Пазьняком на сустрэчы ў прэзыдэнцкім палацы ў праскіх Градчанах мы гаварылі пра пагрозу дэмакратыі, якая ідзе ад Лукашэнкі - нас ветліва выслухалі, а потым сказалі, што Беларусь - гэта вельмі далёка ад Прагі, гэта па-першае, а па-другое - дэмакратычная Расея не дазволіць ўзмацніцца аўтарытарызму ў Менску. Потым былі дзесяткі размоваў з чэскімі палітыкамі, палітолягамі й журналістамі, на якіх давялося даказваць супрацьлеглае.

Сёньня ілюзіі наконт "дэмакратызму" Расеі - у мінулым, а тэма Беларусі зрабілася адною з найбольш актуальных. Гэта і пацьвердзілі сустрэчы Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы з кіраўнікамі Чэхіі, якія адбыліся ў сакавіцкія дні ў Празе.

"Беларусь - наша новая суседка" - такой была тэма міжнароднай канфэрэнцыі, якая прайшла днямі ў Сэнаце Чэскай Рэспублікі. Распачалі канфэрэнцыю былы прэзыдэнт Чэхіі Вацлаў Гавал і Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. У сваім выступе Вацлаў Гавал сказаў, што ці быць Беларусі ў Эўропе - гэта павінен вырашаць сам беларускі народ. Але калі ён зробіць эўрапейскі выбар, абярэ шлях на Захад - дык абавязак эўрапейскіх краінаў будзе дапамагчы пасьпяхова прайсьці гэты шлях. "Мы павінны трымаць для Беларусі дзьверы адкрытымі" - сказаў ён.

Івонка Сурвілла адзначыла, што Беларусь была, ёсьць і будзе краінаю эўрапэйскаю, і рэзка скрытыкавала палітыку Масквы, якая ўжывае эканамічны, у тым ліку і газавы фактар, у мэтах анэксіі ўсходняй суседкі. Сярод першачарговых крокаў, якія маглі-б паспрыяць Беларусі, Старшыня Рады БНР называла зьмякчэньне, а ў пэрспэктыве і скасаваньне візавага рэжыму для грамадзянаў Беларусі з краінамі Эўрапэйскага Зьвязу.


Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

У Празе Івонка Сурвілла мела сустрэчы з старшынём Сэнату Пітарам Пітгардам і ягоным намесьнікам Янам Румалам, старшынём ніжняй палаты парляманту Любамірам Заралкам, віцэ-прэмьерам Петэрам Марашам, міністрам замежных справаў Кірылам Свободам. Спн. Сурвілла расьпісалася ў Кнізе ганаровых наведнікаў Сэнату, дзе адзначаюцца толькі кіраўнікі дзяржаваў.

Пра такі ўзровень сустрэчаў, нягледзячы на ўсе высілкі менскай дыпляматыі, і марыць ня можа Аляксандар Лукашэнка, што і пацьвердзіла ягоная нядаўняя паездка ў Славенію.

27 сакавіка ў Люстраной залі праскага Кліменцінуму адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 86-м угодкам абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Выступілі спн. Івонка Сурвілла, кіраўнік суполкі беларусаў Чэхіі Ганна Сурмач, госьці зь Менску - пісьменьнік Уладзімер Арлоў і паэтка Валянціна Аксак, чэская перакладніца Францішка Сокалава, госьць з Аўстраліі Міхась Лужынскі, кіраўнік Таварыства Беларускай Культуры ў Вільні Хведар Нюнька, а таксама прадстаўнікі беларускіх асяродкаў іншых краінаў. Удзельнікі акадэміі ўсклалі кветкі на магілках, дзе пахаваныя Прэзыдэнты БНР Пётра Крэчэўскі й Васіль Захарка.

***Сяргей НАВУМЧЫК, намесьнік Старшыні Рады БНР, Прага***

## Беларуская дэлегацыя ў Белым доме

Прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі зь Нью Ёрку, Нью Джэрзы й Агаё прысутнічалі 29 сакавіка на імпрэзе ўступленьня ў НАТО новых сяброў - Баўгарыі, Латвіі, Летувы, Румыніі, Славакіі, Славеніі й Эстоніі. ЗША зьяўляюцца краінаю-дэпазытарам Паўночна-Атлянтычнае Дамовы, і таму такія імпрэзы праходзяць у сталіцы гэтай краіны. Сёлета яна адбылася на лужку ла Белага Дому ў прысутнасьці прэм'ер-міністраў новых краінаў НАТО, прэзыдэнта ЗША Дж. Буша, генэральнага сакратара НАТО Я. Г. Шэфэра і дзяржаўнага сакратара ЗША К. Паўэла. Сябры беларускай дэлегацыі, запрошаныя ўплывовай арганізацыяй "Цэнтральна-Ўсходнеэўрапейская Кааліцыя" (CEEC), знаходзіліся ў ложы VIP і мелі магчымасьць праслухаць прамову прэзыдэнта Буша з нагоды пашырэньня НАТО.

Затым у Галярэі Каркаран адбылося ўрачыстае прыняцьце, на якім выступіў сакратар абароны ЗША сп. Д. Рамсфэлд, прадстаўнікі CEEC. Былі прысутныя

*Працяг на бачыне 5*

# Мова - Гісторыя - Дзяржава

Беларуская нацыянальная ідэя адлюстраваная ў ідэалёгіі Беларускага Адраджэньня. Яна разьвівалася ў рэчышчы эўрапейскай Вясны Народаў як тыповая зьява, характэрная для Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропы тае пары й палягала на аднолькавых народных каштоўнасьцях. На першым месцы ўсюды стаяла нацыянальная мова, на другім - нацыянальная гісторыя, народныя традыцыі альбо ў цэлым народная культура, часам - рэлігія. Сэнсам усяго нацыянальнага руху было дасягненьне нацыянальнай свабоды й стварэньне (ці аднаўленьне) незалежнай дзяржавы.

Калі вылучыць асноўнае, то галоўныя каштоўнасныя апоры, на якіх трымаліся ўсе нацыянальныя рухі ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе, - гэта нацыянальная мова і нацыянальная дзяржава. На асьцьвярджэньне перш за ўсё гэтых каштоўнасьцяў была накіраваная ўся астатняя палітычная, культурна-асьветніцкая, мастацкая, літаратурная, тэатральная, эканамічная і іншыя працы нацыянальных дзеячоў, арганізацыяў і народных масаў. Пры тым у адных народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы працэсы мелі ярка выяўлены й нават радыкальны характар, у іншых адбываліся больш спакойна, але разьмеркаваньне прыярытэтаў і нацыянальных каштоўнасьцяў было паўсюдна, практычна, аднолькавым. Гэта абумоўлена перш за ўсё падобнымі гістарычнымі й палітычнымі абставінамі, лёсамі нацыянальных грамадзтваў і падобным станам культуры.

Тым часам у іншых частках Эўропы й па ўсім сьвеце (там, дзе занепадалі й разбураліся каляніяльныя сыстэмы) у будаваньні нацый і дзяржавы выступалі часам іншыя каштоўнасныя чыньнікі й прыярытэты - ня толькі мова, культура, гісторыя, але, скажам, рэлігія (Ірляндыя), геаграфічнае становішча (Куба), традыцыя (Швайцарыя) і нават міталёгія.

Прыярытэт беларускай мовы ў разьвіцьці Беларускага Адраджэньня адзначалі ўсе беларускія нацыянальныя дзеячы, асьветнікі, пачынаючы ад Яна Чачота. Гэтак у змаганьні й паўстаньнях прамінула ўсё XIX стагодзьдзе, у канцы якога Францішак Багушэвіч вывеў надзвычай эмацыйна моцную і дакладную формулу: "Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!"

У гэты час (пачатак XX ст.) завершылася таксама фармаваньне палітычнай канцэпцыі Беларускага Адраджэньня як імкненьня нацыі да незалежнага дзяржаўнага існаваньня (утварылася палітычная партыя, партыйная газэта і г. д.).

Гэта ёсьць, паўтаруся, эўрапейскі шлях "Вясны Народаў", ягоны аб'ектыўны й прычынна абумоўлены рэестар каштоўнасьцяў, на якіх трымалася нацыя і адбудоўвалася незалежная дзяржава.

* * *

Першая падсумоўка ўсяго руху Беларускага Адраджэньня адбылася 25 Сакавіка 1918 году, калі было аб'яўлена пра незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Аналіз датыхчасовага і ўсяго наступнага пасьля 1918 году шляху Беларускага Адраджэньня паказвае, што з усёй сыстэмы ідэалаў, дабратвораў і адзнак апорнымі каштоўнасьцямі, на якіх трымаецца Беларуская нацыя і Беларуская нацыянальная ідэя, ёсьць: беларуская мова, беларуская гісторыя і беларуская дзяржава. (Тут я нідзе не кажу пра тэрыторыю, паколькі гэта абавязковая ўмова, якая існуе паўсюдна, дзе існуе нацыя і дзяржава.)

Беларуская мова ва ўсёй гэтай тройцы адзнак ёсьць першасным чыньнікам, які прыхodзілася і прыходзіцца найбольш абараняць і які падвяргаўся і падвяргаецца першаму і найбольш яраснаму вынішчэньню, часам невытлумачальнаму для пабочнага асяродзьдзя, бо зьяўляецца фэнамэнальнаю асаблівасьцю беларускага нацыянальнага змаганьня.

Невытлумачальная, на першы погляд, нянавісьць непрыяцеляў беларушчыны да беларускай мовы патрабуе аналізу і зразуменьня. Без свабоды грамадзкага існаваньня і без масавай жыцьцядзейнасьці разьвіцьця беларускай мовы - няма і беларускай гісторыі. Гісторыя тады (з-за адсутнасьці мовы) зьнікае з масавай сьведамасьці грамадзтва, перастае для яго існаваць, робіцца мёртваю. Бо беларуская гісторыя напісаная беларускаю моваю. Бяз мовы гісторыя адсякаецца, выкрэсьліваецца з грамадзкай памяці, народ пазбаўляецца сваёй інтэлектуальнай базы разьвіцьця, а асоба - рэалізацыі генэтычнай пэрспэктывы (што прыводзіць да зьбядненьня асобы як творчай сутнасьці). Ствараецца сытуацыя, калі робіцца немагчымым узьнікненьне нацыянальных ідэалаў, і разьвіцьцё нацыянальнай ідэі спыняецца.

Яраснасьць, вырабленая і сыстэмная пасьлядоўнасьць, вычварная бязьлітаснасьць, зь якой нашы непрыяцелі з Усходу і з Захаду забаранялі й вынішчалі беларускую мову, тлумачыцца менавіта яе высокім нацыянальна-гістарычным і культуралягічным фактарам, а ня проста этнічным фэнамэнам, за якім нічога не стаіць, акрамя этнічнага існаваньня.

Адраджэньне беларускай мовы ў вышэйшых формах культуры (літаратура, тэатр, навука, інфармацыя, асьвета, адукацыя, літургія і г. д.) натуральна і жыцьць-

*Працяг на бачыне 7*

# Беларусы ў сьвеце адзначылі 25 Сакавіка

## Нью Ёрк

### Дэманстрацыя на Мангэтане

Ля будынку ААН 25 сакавіка адбыўся мітынг, прысьвечаны 86-угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта была таксама акцыя пратэсту супраць рэжыму Лукашэнкі й палітыкі Расеі ў дачыненьні да Беларусі, арганізаваная Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем.

Ладная грамада беларусаў сабралася на 1-й Авэню ў Мангэтане. Сярод дэманстрантаў пераважалі маладыя людзі, якія прыехалі ня толькі зь Нью Ёрку, але і зь іншых гарадоў і штатаў, напрыклад, Вірджыніі, Нью Джэрзы, Масачусэтсу, Пэнсыльвэніі. Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, дэманстранты трымалі плякаты з надпісамі па-ангельску і па-беларуску: "Свабоду Беларусі!, "Падтрымаем Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі", "Жыве вольная незалежная Беларусь!".

Перад прысутнымі з кароткім словам выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. Адзначыўшы важнасьць Акту 25 Сакавіка як асноўнай падзеі апошняга стагодзьдзя, ён падкрэсьліў неабходнасьць захаваньня ідэалаў 25 Сакавіка і адказнасьць, якая выпадае ў гэтай справе на долю беларускай моладзі. Прамова была з энтузыязмам прынятая прысутнымі, гучэлі дружныя волічы "Жыве Беларусь!".

Да прысутных зьвярнуліся сакратар нью ёрскага аддзелу БАЗА спн. Валянціна Якімовіч, якая заклікала моладзь да актыўнейшай працы для Беларусі, і супрацоўніца катэдры славянскіх моваў Віленскага ўнівэрсытэту праф. Марыя Крупавес, якая распавяла аб традыцыі адзначэньня сьвята 25 Сакавіка ў Вільні.

Затым старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка прачытаў прывітаньні, дасланыя ад беларускіх арганізацыяў, і распавёў пра адзначэньне сёлетняга Дня Волі ў іншых краінах.

Пасьля гэтага дэманстранты сталі скандаваць лёзунгі ў падтрымку Беларусі, супраць рэжыму Лукашэнкі й расейскай экспансіі. Мінакам раздаваліся ўлёткі з тлумачэньнем мэтаў мітынгу і інфармацыяй пра становішча ў Беларусі.

Затым мітынгоўцы з сьцягамі й плякатамі прайшлі да прадстаўніцтваў Беларусі й Расеі пры Аб'еднаных Нацыях, дзе мітынг прадоўжыўся. Зноў прагучэлі прамовы, лёзунгі, а мінакі мелі магчымасьць больш даведацца пра Беларусь і нагоду для акцыі.

*Віталь ЗАЙКА*

### Урачыстае сьвяткаваньне

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 28 сакавіка адбылася ўрачыстая акадэмія і сьвяткаваньне, прысьвечаныя Дню Волі - 86-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, арганізаваныя аддзеламі БАЗА ў Нью Ёрку і Нью Джэрзы. Напачатку прагучэў амэрыканскі гімн у выкананьні спч. Вольгі Казак.

Урачыстую акадэмію адкрыў кароткаю прамоваю старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка. Затым з прывітальным словам да прысутных зьвярнуўся Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Павіншаваўшы ўсіх з найвялікшым беларускім нацыянальным сьвятам, ён адзначыў, што дзень 25 Сакавіка 1918 году ёсьць межавым каменем, гранічным знакам, які заявіў сьвету аб стварэньні новае эўрапэйскае нацыі - беларусаў. Знамянальна, што на сёлета прыпадаюць 120-я ўгодкі Антона Луцкевіча, славутага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, аднаго з тых, хто найбольш спрычыніўся да прыняцьця Акту 25-га Сакавіка. "Гэты Акт адзначыў у пэўным сэнсе пачатак шляху. І гэты шлях яшчэ ляжыць перад намі - шлях змаганьня, доўгі шлях працы на карысьць Бацькаўшчыны і яе народу".

Затым з прывітаньнем выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ сп. Зянон Пазьняк. ¨н адзначыў вырашальны характар абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка 1918 году і падкрэсьліў, што без гэтага Акту шлях Беларусі да незалежнасьці й узьнікненьня Рэспублікі Беларусь быў бы значна

Працяг на бачыне 5




*На здымках: удзельнікі мітынгу на 1-й Авеню ля будынку ААН.*




## Бэльгія

Сябры Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня (БЭЗ) адзначылі пікетам 86 ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пікет адбыўся 25 сакавіка 2004 году ў Брусэлі насупраць галоўнага ўваходу ў будынак Эўрапарляманту. У сувязі з тым, што ў гэты дзень адбывалася паседжаньне Рады Эўрапарляманту, пікет выклікаў вялікую зацікаўленнасьць усіх, хто яго бачыў. У час размовы, якая адбылася паміж пікетоўцамі й удзельнікамі паседжаньня Рады, стала ведама аб тым, што актывізаваліся абмеркаваньні аб хучэйшай інтэграцыі Беларусі ў Эўразьвяз.

З боку мясцовых праваахоўнікаў была выказана добразычлівасьць і разуменьне ў справе палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

*Адказны прэсс-сакратар БЭЗ*
*Аркадзь ВАСІЛЕЎСКІ*



## Чэхія

Паводле старай традыцыі, якую ўжо 86-ы год сумленна падтрымліваюць беларусы па-за межамі сваёй Радзімы, 25 сакавіка, у Дзень Волі, дзень абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі, адбыліся сьвяточныя мерапрыемствы й у чэскай мэтраполіі - златай Празе.

Як ведама, тут, "дзякуючы" вайне, якую вядзе рэжым Лукашэнкі супраць усіх дэмакратычных сілаў краіны, шмат беларусаў выявілі жаданьне атрымаць палітычны прытулак. Яны й маладыя беларускія студэнты склалі большасьць тых, хто халоднай раніцай з бел-чырвона-белым сьцягам прыйшлі на Альшанскія могілкі чэскай сталіцы. Тут у першай палове мінулага стагодзьдзя былі пахаваныя знакамітыя беларускія палітыкі, дзяржаўныя дзеячы, вымушаныя пасьля акупацыі Беларусі бальшавікамі эміграваць на Захад, ды іншыя беларусы, што насуперак сваёй уласнай волі пакінулі краіну, бо не маглі супрацоўнічаць з так званай "дыктатурай пралетарыяту". Сярод іх, Старшыня Рады БНР Пётра Крэчэўскі ды ягоны наступца Васіль Захарка, альбо славуты опэрны сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі... Нажаль, яны памёрлі далёка ад Беларусі.

Маладыя беларускія эмігранты ўшанавалі іхнюю памяць кветкамі ды хвілінаю цішы. Сумна, канешне, што і праз столькі гадоў амаль нічога не зьмянілася на нашай Бацькаўшчыне. Але надзея на тое, што аднойчы Беларусь усё-ж такі будзе сапраўды свабоднай і незалежнай, - гэтая надзея бясьсмяротная. Думку гэтую асабліва падкрэсьлілі на праскіх Альшанах усе прысутныя.

Трэба дадаць, што да сяброў Зьвязу Беларусаў Замежжа ў Чэхіі, якія арганізавалі сьвяткаваньне 25 Сакавіка, завіталі й сябры-суайчыньнікі з Бэльгіі й Польшчы. Пасьля наведваньня могілак адбылася прэзэнтацыя новай працы беларускага мастака-эмігранта Адася Калюты: гэта партрэт Кастуся Каліноўскага, які цяпер упрыгожвае сядзібу Зьвязу Беларусаў Замежжа.

На заканчэньне Дня Волі адбылася сьвяточная вячэра, у якой прынялі ўдзел і прадстаўнікі чэшскіх палітычных і грамадзкіх колаў.

*Алесь КРЫЖЭВІЧ*



# Беларусь за месяц

## Дзень Волі ў сталіцы

Напачатку меркавалася зладзіць на Дзень Волі звычайную акцыю-шэсьце. Але за пару тыдняў да гэтага дэмакратычныя партыі вырашылі "не распыляцца", а правесьці "вялікую" акцыю 26 красавіка - "Чарнобыльскі шлях". Паглядзім, што з гэтага атрымаецца.

Таму было вырашана задаволіцца "гуляньнямі" ля гарадзкой ратушы, балазе адпаведнага дазволу на гэта ў Менгарвыканкаму на трэба пытаць. А 17-й гадзіне ла ратушы сабралося каля 300 чалавек. Міліцыянты, а сярод іх, па чутках, былі й расейскія калегі, што прыехалі пераймаць беларускі досьвед, спачатку "прапанавалі" разысьціся. Калі-ж тыя не пагадзіліся, пачалася звычайная зачыстка. Былі арыштаваныя некалькі чалавек, сярод іх Старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка.

У той-жа час Валянцін Баранаў, Вячаслаў Сіўчык, Дзяніс Буйніцкі на Кастрычніцкай плошчы зладзілі сваю акцыю. Яны прыкавалі сябе ланцугамі да ліхтароў, пратэстуючы тым самым супраць парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Дэманстрантаў арыштавалі, а на наступны дзень суд Цэнтральнага раёну сталіцы прысудзіў вялікія штрафы - Баранаву 850 тысяч рублёў ($400), двум астатнім па 350 тысяч рублёў ($162).

Увечары 25 сакавіка таксама меркавалася правесьці ўрачыстую вечарыну ў Доме вэтэранаў. Але адміністрацыя Дому разарвала кантракт, спаслаўшыся на тое, што ня мае ліцэнзіі на правядзеньне канцэртаў прафэсыйных творчых калектываў.

## Дзень Волі ў правінцыі

Адсьвяткавалі Дзень Волі й у іншых гарадох Беларусі. У Магілёве "маладафронтаўцы" раскідалі па паштовых скрынях віншавальныя ўлёткі, а на пешаходнай вуліцы Ленінскай сябры апазыцыйных партыяў віншавалі мінакоў зь Днём Волі.

У Бабруйску былі ўскладзеныя кветкі да помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

У Косаве (Івацэвіцкі раён Берасьцейская вобласьць) на радзіме Тадэвуша Касьцюшкі быў усталяваны памятны крыж.

У Берасьці ў грэка-каталіцкай царкве адбылося сьвяточнае набажэнства, увечары ў адным з клюбаў канцэрт гурта "NRM", а 27 сакавіка на стадыёне "Будаўнік" адбыўся сьвяточны мітынг.

Прайшлі акцыі ў Маладэчне, Горадні, Наваполацку.

## Адмова ад грамадзянства РБ

Вядомы віцебскі апазыцыянэр, сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ хоча быць грамадзянінам БНР і не жадае атрымліваць пашпарт грамадзяніна РБ новага ўзору. Падтрымаць сваю акцыю ён просіць усіх, хто мае даведку аб грамадзянстве БНР (такая акцыя праводзілася ў сярэдзіне 90-х г. г.).

На думку грамадзкага дзеяча, замена пашпарту - прызнаньне легітымнасьці кіраваньня Лукашэнкі ды згода на страту беларускай незалежнасьці.

У інтэрв'ю карэспандэнту "Радыё Свабода" ён заявіў: "Я разумею, што такім чынам буду "невыязны", што не змагу ўладкавацца на працу, што ня буду мець магчымасьці атрымаць пэнсію... Будуць мяне штрафаваць, караць за гэта, але я не адступлюся. Інакш я не магу!"

## Дзень сьмеху

Прадстаўнікі апазыцыі - Аб'еднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, руху "Зубр" - зладзілі 1 красавіка на менскім Камароўскім рынку жартоўную акцыю пад назваю "Партрэт прэзыдэнта ў кожную хату". Яны раздавалі мінакам партрэты Лукашэнкі, якія нібыта валодаюць лекавымі функцыямі. Пры канцы 80-х - пачатку 90-х партрэты народных "цаліцеляў" былі надзвычай папулярнымі ў СССР. Іх можна ставіць да слоікаў з вадою - тады яны зараджаюць ваду пазытыўнай энэргіяй, ці прыкладаць да хворых месцаў.

Мінакі бралі партрэты з ахвотаю.

## Пратэст амбасадараў

Калі-б у Беларусі былі дазволеныя двубоі, то да некаторых "зорак" беларускіх тэлеканалаў выстраілася-б калейка. Амбасадар Францыі ў Беларусі Стафан Шмялеўскі зьвярнуўся з адкрытым лістом да аўтара і вядучага адыёзнай перадачы на беларускім тэлебачаньні "Правы чалавека. Погляд у сьвет" Яўгена Новікава. Дарэчы, у Вярхоўным Савеце XII склікання Новікаў быў у фракцыі БНФ.

С. Шмялеўскі ў звароце да журналіста ад імя паслоў эўрапейскіх краінаў, акрэдытаваных у Беларусі, асудзіў хлусьню і падман, якая ліецца з тэлеэкранаў у гэтай перадачы, у дачыненьні да краінаў Эўразьвязу і іхных прадстаўнікоў, якія, бачыце, знайшлі ў сабе сьмеласьць раскрытыкаваць парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. "Любы журналіст, варты гэтага імя, у такой краіне, як вашая, разьмешчанай на мяжы з пашыраным Эўрапейскім Зьвязам, мусіць садзейнічаць такім дыскусіям, чым траціць час на рыторыку, што засталася, на шчасьце, у мінулым, прынамсі, у тых краінах Эўропы, якія суседнічаюць зь Беларусьсю".

2 красавіка амбасада Рэспублікі Польшча выступіла з аналягічнаю заявою, у якой гаворыцца, што "крумкач беларускае журналістыкі" называе заходнюю суседку "марыянэткавай дзяржавай".

Самае жахлівае ў гэтай сытуацыі тое, што Новікаву ўсё сыдзе з рук. Ці БТ, ці ён сам заявяць, што гэта ягоны пэрсанальны пункт гледжаньня, а "ня нравіцца - не сматрыце". Аб прафэсыяналізме беларускага тэлебачаньня сьведчыць той факт, што ў сакавіку на пасаду кіраўніка БТ быў прызначаны былы намесьнік па ідэалёгіі полацкага заводу "Шкловалакно" Уладзімер Матвейчук.

## Галадоўка "Юкі"

22 сакавіка дзесяць супрацоўнікаў адкрытага акцыянернага таварыства "Юкі" ў Смалявічах (Менская вобл.), распачалі галадоўку. Яны пратэставалі супраць рашэньня мясцовых уладаў, які намагаліся забраць іх дзялянку зямлі, на якой размешчанае прадпрыемства.

Сутнасьць канфлікту наступная: у канцы 90-х гадоў дырэкцыя прадпрыемства "Легсынтэз" - філіялу "Белмэдпрэпаратаў" - здала ў арэнду, а затым прадала "Юкі" пабудаванае на ўскрайку Смалявічаў прадпрыемства па вытворчасьці бэтону і раствору. Прадпрыемства пасьпяхова дзейнічала, забясьпечыўшы занятак некалькім дзясяткам беспрацоўных. Так, заробак на "Юкі" складаў 400 тыс. рублёў (каля $200), што па мерках беларускіх райцэнтраў вельмі прыстойна. Да таго-ж штогод прадпрыемства папаўняла гарадзкую скарбонку на 150 млн. рублёў падаткаў.

Аднак у 2001 годзе ўлады прызналі продаж незаконным - і Смалявіцкі райвыканкам пастанавіў зьнесьці там пабудовы. "Юкі" зьвярнулася ў суд. Вышэйшы гаспадарчы суд скасаваў рашэньне райвыканкаму. Але апошні падаў скаргу. Гэтым разам "Юкі" прайграла. Суд пастанавіў да канца сакавіка вызваліць вытворчасьць, а 22 сакавіка адключылі электраэнэргію.

У гэты-ж дзень супрацоўнікі "Юкі" пачалі галадоўку, ставячы на мэце прыцягненьне ўвагі гарадзкіх уладаў да праблемы. Кіраўнікі прайгнаравалі галадоўку, аднак пытаньне ўзьнялі на паседжаньні ў прэм'ер-міністра краіны Сяргея Сідорскага, які загадаў разабрацца з эканамічных крытэраў.

30 сакавіка галадоўку спынілі, аднак няведома што будзе далей - ці "Юкі" застанецца на сваім месцы, ці перанясе вытворчасьць у іншае.

## Пра эканоміку

1 красавіка ў Беларусі вырасла тарыфная стаўка першага разраду, якая бярэцца за аснову пры налічэньні заробку. Цяпер яна складае 38 тысяч беларускіх рублёў ($17,5). Нагадаем, што мінімальны заробак у Беларусі складае 83 тысячы рублёў.

1 красавіка вырасла і базавая велічыня. Менавіта ў ёй даюць штрафы. Цяпер яна складае 19 тысяч рублёў (каля $9).

## Новыя "Запісы"

Днямі выйшаў з друку 27-ы нумар "Запісаў Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва". Гэты нумар прысьвечаны сьветлае памяці Зоры Кіпель. Друкуюцца ўспаміны Янкі Запрудніка пра гэтую выдатную дзяячку, ейныя ўласныя ўспаміны, Лявон Юрэвіч падрыхтаваў "Бібліяграфію З. Кіпель".

Таксама ў нумары - артыкулы Ірыны Багдановіч "Беларуская паэзія 20-х гадоў як зьява літаратурнага авангардызму", Натальлі Гардзіенкі "Беларусы Аўстраліі: аповед пра сябе", Юрася Гарбінскага "Беларускі рэлігійны друк на эміграцыі", выбраныя часткі працы Вацлава Панупэвіча "Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква", проза Янкі Юхнаўца і шмат іншага.

Нарыс Лявона Юрэвіча "Нашыя могілкі" дапоўнены фатаздымкамі беларускіх пахаваньняў па-за межамі сёньняшняй Беларусі - Вільня, Польшча, Нямеччына, Чэхія, Вялікая Брытанія, Францыя, Канада, ЗША, Аўстралія.

*Уласны карэспандэнт*

# "Сьвятло Радзімы ў душы гарыць і не згасае"

Гэта радкі зь верша, які напісаў мой дванаццацігадовы сын Міця на конкурс Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" ў кастрычніку-лістападзе летась. Гэтыя радкі ён, магчыма, напісаў ня надта задумваючыся пра іх сэнс, бо невялікі яшчэ па ўзросьце, увесь час жыў дома сярод родных і блізкіх, любіў усё сваё і ніколі не выяжджаў за межы Беларусі.

Так распарадзіўся лёс, што нарадзіўся ён пасьля Чарнобыльскай аварыі. Нашая Віцебская вобласьць лічылася самаю чыстаю ад радыёактыўных выкідаў. Але мой муж, бацька Міці, быў ліквідатарам. Пабывала ў Чарнобыльскай зоне і я. Калі ў тры гады ў Міці прызналі прыроджаную хваробу, лекары сказалі, што гэта вынік нашага знаходжаньня ў зоне. Паўставала пытаньне аб тым, каб адняць сыну адную нырку. Мой Міця застаўся-б інвалідам на ўсё жыцьцё. Госпад і добрыя людзі ўратавалі яго. Была складаная апэрацыя, але дзякуючы прафэсыяналізму менскіх лекараў , нырку ня выдалілі. Былі доўгія дні ў шпіталі, затым доўгія гады, калі дзіцяці нельга было бегаць, гуляць, як ягоным аднагодкам. Увесь гэты час мы займаліся вучобаю, маляваньнем, кнігамі, размовамі, усім, што не патрабавала рухомых гульняў.

Трэба сказаць, што майму Міцю было 1 год і 8 месяцаў, калі ён прынёс мне азбуку і папрасіў паказаць літары. Я сьмехам паказала яму дзьве літары й прачытала некалькі сказаў. Назаўтра сын прынёс мне азбуку і прачытаў усё, што ўчора пачуў ад мяне. Майму зьдзіўленьню не было канца. Я зразумела, што кніга - не гульня для хлапчука, і пачала вучыць яго чытаць. Сьвята азбукі мы зрабілі ў тры гады. У чатыры Міця ўмеў рыфмаваць радкі, складаць невялікія вершаванкі. Я навучыла яго гэтаму на ягоную прозьбу. У сваё чатыры ён лічыў і рашаў прыклады, якія праходзілі дзеці ў першай-другой клясе. Задаваў ён мне такія пытаньні, што трэба было ісьці ў бібліятэку, каб даць адказ. Міця рабіў не па ўзросту талковыя, неардынарныя высновы, па-мастацку параўноўваў, гаварыў сьмешна і да месца, маляваў карціны, як цяпер сказалі-б, у стылі абстракцыянізму. Нешта ён рабіў асэнсавана, многае, напэўна, падсьвядома, але рабіў гэта зь цікавасьцю і захапленьнем.

І летась якраз падыйшоў узрост, каб прыняць удзел у конкурсе. Напісаў два сачыненьні й верш і аказаўся адным зь ляўрэатаў. Якім-жа шчасьцем было для яго паведамленьне, што ўсе пераможцы паедуць на 9 дзён у Польшчу на адпачынак. Міця сьпяваў і плакаў ад радасьці. Мы ўсе таксама радаваліся за яго. А я была проста перакананая, што Гасподзь даў майму сыну ўзнагароду за ягоныя перажытыя мукі, за ягонае стараньне, за ягонае імкненьне быць не такім як усе.

Каб былі грошы, можна было-б выдаць кніжачку ягоных твораў, россыпаў дзіцячай, ні з чым не параўнальнай мудрасьці.

А пакуль Міця і ўсе мы дзячым супрацоўнікам ЗБС "Бацькаўшчына", што ў Менску, за іхную працу, за іхнае шчырае жаданьне падарыць дзецям сьвята і дапамагчы зразумець, што радзіма, якая яна-б не была, даражэйшая за ўсё, што ім трэба імкнуцца зрабіць жыцьцё на радзіме шчасьлівейшым і заможнейшым. Гэта пад сілу будучым грамадзянам нашай краіны, цяперашнім дзеткам. Вярнуўшыся дадому мой Міця сказаў: "Цяпер я разумею, што значыць "Сьвятло Радзімы ў душы гарыць і не згасае". І гэта, бадай, галоўнае. І культурна-асьветніцкая, і выдавецкая, і гістарычна-дасьледчая дзейнасьць ЗБС "Бацькаўшчына" заслугоўвае павагі й падзякі.

Мы ўдзячныя спн. Ірэне Каляда-Сьмірновой з Кліўленду, якая дапамагае ажыцьцяўленьню праектаў "Бацькаўшчыны" й фінансуе вандроўкі таленавітых дзетак. Дзякуем усім добрым спагадлівым самаахвярным людзям, нашым землякам, Кастусю Акулу, Віталю Кажану, Адольфу Субоце, якія падтрымліваюць нас і словам, і справаю, якія па-просту дапамагаюць выжываць, пазнаваць сьвет, спасьцігаць дабро і міласэрднасьць. Жадаем ім словамі майго маленькага філёзафа Міці: "Няхай у кожным куце Вашай хаты пахне шчасьцем. Няхай у кожным куточку Вашага цела будзе здароўе. Няхай "Сьвятло Радзімы ў душы гарыць і не згасае!"

Мы зьведалі, якая на смак бяда, а таму ўсё жыцьцё будзем удзячныя тым, хто дапамог нам зьведаць хвіліны радасьці й шчасьця.

*Галіна СУТУЛА*
*Г. Глыбокае*

## Вялікабрытанія

У Лёндане 27 сакавіка адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 86-ых угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, на якое зьехаліся беларусы з розных месцаў у Вялікабрытаніі. Гэты дзень знамянальны яшчэ і тым, што ў гэты дзень адзначалася пяцідзесяцігодзьдзе Англельска-Беларускага Таварыства. Перад урачыстым паседжаньнем айцец Аляксандар Надсон адслужыў малебен.

На ўрачыстасьць быў запрошаны амбасадар Вялікай Брытаніі ў Беларусі спадар Брайан Бенэт, які акрэсьліў палітычную і эканамічную сытуацыю, што склалася ў Беларусі. Пасьля ўрачыстай часткі гасьцей чакаў сьціплы пачастунак, прагатаваны беларускімі жанчынамі.

***Лілія САЗАНАВЕЦ***

***На здымку Зьміцера Сазанаўца: амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі сп. Брайан Бенэт і Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі спн. Лёля Міхалюк.***



## Аўстралія

У Адэляйдзе, у Паўднёвай Аўстраліі, у царкве Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла БАПЦ у нядзелю 28 сакавіка ўрачыста адзначалі 86-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Цёплае надвор'е, як заўсёды, спрыяла нам адкрытым сонцам у гэты вялікі для нас дзень. Царква была прыгожа прыбраная кветкамі, і ад паловы на дзесятую раніцы ўрачыста сустракала вернікаў парафіі.

Сьвятую Літургію і малебень за Беларусь адслужыў настаяцель царквы айцец Яўген Квасьнюк. У час малебну за Беларусь былі ўзьнятыя сьцягі: беларускі бел-чырвона-белы й аўстралійскі. На заканчэньні царкоўны хор адсьпяваў "Магутны Божа".

Айцец Яўген пасьля Багаслужбы сказаў вельмі чулую прамову на тэму сьвяткаваньня і запрасіў усіх прысутных у царкоўную залю на ўрачысты посны абед, які падрыхтавала сястрыцтва.

Калі ўсе ўдзельнікі сьвяткаваньня сабраліся ў царкоўнай залі, айцец Яўген папрасіў прысутных на сьвяткаваньні устаць, каб пачаць малітвою сьвяточны абед. Пасьля малітвы "Ойча наш..." ўсе адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Наступна старшыня царкоўнага камітэту Міхась Шчурко (малодшы) выказаў падзяку ўсім прысутным і сказаў кароткую прамову.

Пасьля гэтага пачаўся сьвяточны абед, які быў падрыхтаваны на агульным стале. Вясёлая атмасфэра запоўніла ўсю залю, гучалі тосты, каб жыла Беларусь! Спн. Станіслава Сідненка прадэклямавала ўрывак "Мой родны кут..." з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля", за што яе ўзнагародзілі гучнымі воплескамі.

У вясёлым настроі прайшоў дзень, і ўсе пачалі разыходзіцца а палове на пятую вечара.

***Уладзімер АКАВІТЫ***

## Кліўленд

Урачыстасьці сьвяткаваньня 86-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР адбыліся ў царкоўнай залі пасьля Сьвятой Літургіі ў нядзелю 28 сакавіка. Афіцыйную частку пачаў сп. Павал Васілеўскі, які прадставіў гасьцей: Рамана Фэдкіў, дырэктара міжнародных і шматкультурных зносінаў офісу гурэрнатара Агаё Боба Тафта з Калямбусу ды Майкла Ўяхару з Дзяржэдэпартаманту ЗША.

Сп. Янка Ханенка зачытаў прывітальны ліст Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы й кіраўніцтва БАЗА. Прамаўлялі сп. сп. Сяргей Раманюк і Майкл Уяхара. Сп. Раман Фэдкіў прачытаў ліст губэрнатара штату Агаё, а сп. Васілеўскі сэнатара Вайновіча.

Усе з задавальненьнем слухалі беларускія вершы й сьпевы, якія цудоўна выканаў хор "Васілёк".

Спн. Ева Яраховіч прыгатавала добры пачастунак, пасьля якога ўсе ўдзельнікі сьвяткаваньня былі запрошаныя ў былую хату сп. сп. Сяргея Карніловіча і Кастуся Калошы, дзе намаганьнямі сп. Паўла Васілеўскага адкрытая бібліятэка і ствараецца архіў. Наведаўшы бібліятэку, сп. Фэдкіў паабяцаў дапамагчы ў пошуках фінансавых сродкаў на пашырэньне яе і стварэньне музэю.

У добрым настроі госьці разьвіталіся з беларусамі Агаё, а сьвяточны дзень працягваўся як сямейнае сьвята.

***Сяргей ВАСІЛЬЕЎ***



# Мы - зь Беларусі

Так называлася творчая сустрэча, што прайшла напярэдадні Дня Волі 25 Сакавіка ў Чыкага ў так званым "Рускім клюбе" на вуліцы Вілсан, дзе часта зьбіраюцца на розныя мерапрыемствы эмігранты апошняй хвалі.

На гэты раз сустрэча была прысьвечаная творчасьці Міхася Клейнера, ведамага ў Чыкага кампазытара, паэта, перакладчыка і сьпевака. Вытокі й асноўныя матывы ягонай творчасьці цалкам зьвязаныя зь Беларусьсю - краінаю, дзе ён нарадзіўся і вырас, дзе ўпершыню прыйшло да яго паэтычнае і музычнае натхненьне.

Адкрываючы сустрэчу, Ванкарэм Нікіфаровіч нагадаў пра надыходзячае сьвята 25 Сакавіка і прачытаў радкі з славутага купалаўскага верша "Я ад вас далёка":

*Я ад вас далёка, бацькоўскія гоні,*
*На чужое неба ўжо гляжу сягоньня...*

Прамоўца асабліва падкрэсьліў, што зьяўленьню такой таленавітай асобы як Міхась Клейнер спрыяла непаўторная духоўна-культурная атмасфэра Беларусі, талерантнасьць і чалавекалюбства людзей, што жылі на гэтай зямлі, своеасаблівы перагук усяго лепшага, што аздабляла мовы беларускую, ідыш, польскую, расейскую... Нажаль, няма ўсяго гэтага сёньня ў Беларусі, лепшы паэт якой Рыгор Барадулін напісаў усхваляванае эсэ пад назваю "Толькі-б яўрэі былі..."

Міхась Клейнер сваёй натхнёнай творчасьцю, заклікаючы ўсіх не забываць радзімы, спрабуе ўзнавіць атмасфэру мінулых гадоў, марачы перш за ўсё аб шчасьлівым і свабодным жыцьці для ўсіх людзей сёньня на гэтай шматпакутнай зямлі.

Падчас канцэрту выконваліся арыгінальныя песьні Міхася Клейнера на словы Янкі Купалы, Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя, Ізі Харыка (пераклад П. Глебкі), Мойшэ Кульбака і Мотла Каплана (пераклад М. Клейнера), Анатоля Грачанікава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Давіда Сімановіча і іншых . Некалькі песень прагучала на словы самога кампазытара (пераклаў на беларускую мову Ванкарэм Нікіфаровіч). Апрача Міхася Клейнера ў якасьці салістаў песьні выконвалі Фіра Рэхтман, Соф'я Рапапорт, Валянціна Марчанка, Сіма Пэўная, Міхась Гарлавецкі, Марк Віленскі. Акампанавалі Вольга Башкіна, Зіта Рыт, Міхась Раскін, Барыс Лерман.

Творчая сустрэча "Мы - зь Беларусі" прайшла ў перапоўненай залі зь вялікім посьпехам.

***Наш кар.***

# Краіна-донар, краіна цудаў

Яшчэ са старажытных крыніцаў мы ведаем, што веды даюць вялікую перавагу чалавеку над навакольлем. Менавіта з-за гэтага натоўпы хамаў шматкроць руйнавалі бібліятэкі, забівалі гандляроў кнігамі, палілі найкаштоўнейшыя рукапісы. Каралі, імпэратары ды іншыя кіраўнікі таксама прыкладалі да гэтага руку, зьнішчаючы й старажытныя кнігі, і самую цягу да ведаў. Якою-б дзікаю ды барбарскаю не здавалася-б такая палітыка, але гэта была няпростая прыхаць уладу маючых. Іхныя ўчынкі былі прадыктаваныя галоўнаю задачаю, якая стаіць амаль перад кожным кіраўніком - захаваньне і ўмацненьне улады. Бо зьяўленьне моцнага чалавека ці людзей, якія нясуць веды, заўсёды несла небясьпеку для кіраўнікоў.

Такая палітыка была характэрная для ўсіх ранейшых эпохаў і часоў, якія мы цяпер называем гісторыяй. Зараз-жа на вуліцы XXI стагодзьдзе, сьвет зьмяніўся да непазнавальнасьці, але, ня гледзячы на гэта, у цэнтры Эўропы ёсьць краіна, у якой небясьпечна быць адукаваным. Гэтая краіна - Беларусь, дзе дыктатура выкрадае ў моладзі будучыню, адсоўвае пэрспэктыву атрыманьня якаснай адукацыі, добрай працы, жыльля, стварэньня паўнавартаснай сям'і; дзе зьнікаюць людзі, робяцца неабсанаваныя арышты й затрыманьні, ужываюцца ціск і запалохваньне ў адносінах да няўгодных, дзе адсутнічае незалежны справядлівы суд, абмежаваная свабода слова і друку, сходаў і аб'яднаньняў. Беларуская хлопцы й дзяўчаты на Дзень Сьв. Валянціна выходзіць на вуліцы змагацца за свае правы, а не ідуць, трымаючы за руку каханага чалавека, у кіно ці на канцэрт.

А ці-ж не выклікае абурэньня факт, што ўлады закрылі Нацыянальны· Гуманітарны Ліцэй імя Якуба Коласа, адзіную прэстыжную навучальную ўстанову, дзе выкладаньне вялося па-беларуску? Не пазьбег праблемаў і Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт, у якім, уладам "здалося", замежныя выкладчыкі блага ўплываюць на беларускіх студэнтаў і ня могуць даць ім належнай адукацыі. Гэта тыя выкладчыкі, дзякуючы якім эўрапейскія краіны атрымалі вялікую колькасьць высокаадукаваных прафэсыяналаў!

Зусім нядаўна арыштавалі баранавіцкіх студэнтаў, якія асьмеліліся перайсьці з лукашысцкага БРСМ у "Зубр".

Чаму так здараецца? Чаму за сумленную цяжкую працу, за добрыя дасягненьні людзі атрымоўваюць такую ўзнагароду? Адказ на гэтае пытаньне патлумачыў-бы й прычыну таго, чаму беларускія студэнты сёньня выкарыстоўваюць кожную магчымасьць, каб застацца замяжою і атрымаць адукацыю. Так, усе могуць памыляцца, але памылкі кіраўнікоў, якія ламаюць жыцьці й лёсы даравац будзе вельмі цяжка.

Немагчыма не разумець, што Беларусі цяпер неабходна ўрэгулёўваць працэс стварэньня і захаваньня інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі. Краіне трэба ўступаць у канкурэнтную барацьбу за творчы патэнцыял сваіх грамадзянаў, бо захаваньне талентаў - зьяўляецца галоўным фактарам павышэньня і захаваньня эканамічнай бясьпекі дзяржавы. Навошта быць інтэлектуальным донарам развітых дзяржаваў? Можа варта стварыць належныя ўмовы для вучобы й працы ў сваёй краіне? А цяпер умовы такія, што 50 адсоткаў выпускнікоў ВНУ мараць зьехаць працаваць замяжу, туды, дзе яны змогуць выкарыстаць свае веды цяпер, а не чакаць часоў, калі гэта можна будзе зрабіць на Радзіме.

У кожнага ёсьць выбар, як у выпускніка ВНУ, так і ў людзей на кіруючых пасадах. Галоўнае - не праяўляць пакорлівасьць, баязьлівасьць, грамадзянскую апатыю, прыстасавальніцтва, калі ад нас патрабуецца цьвёрдасьць, прынцыповасьць і самаахвярнасьць.

***Натальля БАЛЫШ***
***Каліфорнія***




# Вестки й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №4 (459)


# Урачыстае сьвяткаваньне 25 Сакавіка ў Нью Ёрку

Працяг з бачыны 2

даўжэйшы й цяжэйшы, калі наагул магчымы. Русыфікацыя і вынішчэньне ўсяго беларускага ішлі дзесяцігодзьдзямі; у 1980-я гады КГБ і камуністы паставілі крыж на беларускасьці й ідэалах 25 Сакавіка. Але беларускасьць як фэнікс адрадзілася з попелу, залуналі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, моладзь стала ўліваюца ў нацыянальны рух. І тады дата 25 Сакавіка 1918 году стала той прыступкаю, якая дазволіла ўздымацца вышэй, змаганьне папярэднікаў нашых не прайшло марна. Узьнікненьне незалежнай Рэспублікі Беларусь сталася працягам гэтага змаганьня. Нават сёньня, калі пануе дыктатура і топчацца ўсё беларускае, галоўная заваёва - беларуская дзяржава - існуе. 10 год цягнецца палітыка інкарпарацыі ў Расею, але яна церпіць крах. Нават Лукашэнка сёньня аб'ектыўна зацікаўлены ў захаваньні дзяржавы, бо пакуль яна існуе - захоўваецца і ягонае існаваньне. Дзяржава, што ўзьнікла ў выніку Акту 25 Сакавіка - найвышэйшае што ў нас ёсьць.Таму гэты дзень - найвялікшы дзень, які мусіць жыць у нашых сэрцах, падтрымліваць сілы й веру ў Адраджэньне.



Прамаўляе Зянон Пазьняк.

Затым з прывітаньнем выступіў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы сп. Юрка Азарка. Павіншаваўшы прысутных са сьвятам, сп. Азарка спыніўся на дзеяньнях беларускай грамады Амэрыкі па падтрымцы незалежнасьці й свабоды ў Беларусі, кантактах з палітыкамі й ўрадавымі асобамі, кампаніі ў падтрымку Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі.

З кароткім прывітаньнем ад імя Міжнароднай Лігі Правоў Чалавека выступіў сп. Пітэр Залмаеў, які затым даў слова свайму калегу сп. Нэйтану Янгу, каардынатару праекту Беларусь і рэдактару тыднёвага бюлетэню Belarus Update. Сп. Янг выступіў з грунтоўным дакладам аб падзеях у Беларусі, што тычацца пытаньняў дэмакратыі й правоў чалавека.

Затым з прывітаньнем выступіў старшыня Сусьветнай Асацыяцыі Беларускіх Гэбраяў сп. Якаў Гутман. Між іншага ён адзначыў супольныя мэты беларусаў і гэбраяў - грамадзянаў Беларусі ў асягненьні вольнай, незалежнай, дэмакратычнай Бацькаўшчыны. Распавядаючы пра лёс гістарычнага будынку - сінагогі на вул. Дзімітрава ў Менску, які быў зьнішчаны ўладамі, і дзе адбываліся першыя сходы Беларускага Народнага Фронту, сп. Гутман у прыватнасьці сказаў: "Рэжым пачаў з руйнаваньня нашага агульнага мінулага, і калі яго не спыніць - ён зруйнуе нашую агульную будучыню. Вольная Беларусь - гэта агульны дом для беларусаў, гэбраяў і кожнага беларускага грамадзяніна. І мы мусім разам працаваць, каб збудаваць гэты дом".

Сп-ва Мікола і Ліна Сагановіч прачыталі прачуленыя вершы, прысьвечаныя Беларусі. Кампазыцыю на цымбалах выканала спн. Інга Ліпай. Спч. Ксеня Капытка выканала на фортапіяне палянэз Агінскага "Расстаньне з Айчынай".

Былі зачытаныя пісьмовыя прывітаньні ўрачыстаму сходу ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, ад Беларускага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, Партыі БНФ, Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, суполкі "Скарына" ў Чэхіі, ды іншых.

З рэфэратам "86-я ўгодкі Акту 25-га Сакавіка" выступіў сябра ўправы нью ёркскага аддзелу БАЗА сп. Сяргей Пятровіч. У сваім грунтоўным дакладзе прамоўца спыніўся на падзеях, якія прывялі да Акту 25 Сакавіка: стварэньні беларускіх арганізацыяў, І-м Усебеларускім Кангрэсе, стварэньні Беларускай Рады, прыняцьці трох статутных граматаў. Прамоўца таксама распавёў пра ўзьнікненьне Беларускай Народнай Рэспублікі, ахвярнаую працу беларускіх дзеячоў, прызнаньне БНР шэрагам замежных краінаў. Сп. Пятровіч падкрэсьліў важнасьць Акту 25 Сакавіка і сувязь падзеяў тых далёкіх гадоў зь сёньнешнімі пытаньнямі палітычнага і грамадзкага жыцьця Беларусі й беларусаў, куды-б не закінуў іх лёс.

Затым сп. Коля Романо прачытаў праклямацыю губэрнатара штату Нью Ёрк Д. Патакі, а сп. Павал Романо - праклямацыю мэра гораду М. Блумбэрга аб абвешчаньні 25 сакавіка 2004 адпаведна у штаце і ў горадзе Нью Ёрк "Днём Беларусі".

Прагучэў беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", якім завяршылася ўрачыстая акадэмія.

Прысутныя затым мелі магчымасьць пакаштаваць смачны абед зь беларускіх страваў, прыгатаваны сп-вам Вашкевічаў.



У залі гучыць беларускі нацыянальны гімн.

Добра былі сустрэтыя беларускія сусі - модная страва японскага паходжаньня з рысу, прыгатаваная сп. С. Пятровічам.

Пасьля пачаўся канцэрт сям'і Казак. Прысутныя с задавальненьнем слухалі народныя й сучасныя песьні ў выкананьні музыкаў - Валянцінай Пархоменка, Вольгай і Алесем Казак.

Імпрэза прайшла надзвычай удала, і падзяка за падрыхтоўку належыць сп. і спн. Алле Орса-Романо, Зоі й Міколу Вашкевічам, Валеру Дворніку, Сяргею Пятровічу, Анатолю Тальянскаму, сп-ву Казакоў ды іншым.

**Віталь ЗАЙКА**

## Беларусы ў Белым доме

Працяг з бачыны 1

прэм'ер-міністры сямёх новых краінаў НАТО.

Пасьля афіцыйнай часткі беларускія прадстаўнікі мелі кароткія гутаркі з прэм'ер-міністрамі Летувы - Альгердасам Бразаўскасам, Баўгарыі - Сімяонам Саксэ-Кобург Готам, Эстоніі - Юханам Парцам.

**Віталь ЗАЙКА**



На здымку: прэзыдэнт ЗША Джордж Буш з прэм'ер-міністрамі краінаў былога СССР - новымі сябрамі НАТО.

**Наступны сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 10-га красавіка а 7-й гадзіне вечара ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага па адрасу:**

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

*Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.*

**Уплаты ў аддзел дасылайце, калі ласка, скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на* **Belarusan American Association.**

# Новая кніга

**Што да літаратуры беларускай дыяспары і, вузей, эміграцыі, то яна дагэтуль застаецца неспасьцігнутым да канца фэномэнам - прывычныя мэтадалёгіі, якія не працуюць без замоўчваньняў, штампаў, перакручваньняў і фальсіфікацый, дазваляюць яго толькі апісаць, а не зразумець. [...] Каб не падацца дэпрэсіўным пэсымістам, выкажу пад канец свой маленечкі спадзеў: сьвет зьмяняецца, жыцьцё зьмяняецца, і гуманітарная навука таксама не стаіць на месцы. Гадоў зь пятнаццаць таму мала хто мог уявіць, што неўзабаве паявіцца гэтулькі працаў аб нашай дыяспары. Назапашана багата матэрыялу і, каб закрыць тэму, нашым гуманітарнікам трэба адмовіцца ад сэрвільнасьці і стаць хоць трошку больш сучаснымі. Загляне сонца і ў наша аконца.**

***Валер Булгакаў. Вузкія месцы дыяспары (ARCHE, 1/2004)***




"Месца выданьня - Парыж". Гэтак называецца першы том новазаснаванай сэрыі з файным шматсэнсоўным назовам "Бібліятэка Бацькаўшчыны", і прысьвечаны ён часапісу "Моладзь" (1948-1954). Трэба адзначыць: часапіс не ўпершыню прыцягвае ўвагу - у 1997 годзе была выдрукаваная кніга А. Лукашука "Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста", шчодра ілюстраваная здымкамі бачынаў парыскага выданьня, што разам зь іменным ды прадметна-геаграфічным паказьнікамі былі несумненнымі дадатнымі бакамі кнігі - кнігі, якую, нажаль, нельга параіць у якасьці даведачнай ці дакумэнтальнай крыніцы (у аўтарскім уступе, зьмешчаным на кніжнай вокладцы, пісалася, што *"кнігу складаюць дакумэнтальныя сьведчаньні. Словы Янкі Філістовіча ўзятыя зь яговых лістоў, публікацыяў, успамінаў сяброў, а таксама з пратаколаў допыту"*. Пашпартызацыя цытатаў адсутнічала, а таму "дакумэнтальнасьць" засталася прывіднаю).

Другая кніга, выдадзеная Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету, фінансаваная, як і папярэдняя, М. Наўмовічам; які быў хіба адзіным, хто ня толькі зьяўляўся часткаю беларускае эміграцыі ў Францыі, але і дбаў пра захаваньне ейнай гісторыі - не агульнымі словамі-заклікамі, а канкрэтнаю справаю. Ён і маладзейшых заахвочваў - А. Гужон, В. Шыманец, І. Лялькова, чый удзел ва ўкладаньні й рэдагаваньні дапамог-бы пазьбегнуць прыкрых пралікаў, а артыкул апошняга, друкаваны ў нашай газэце (Ігар Лялькоў. Часьціна Беларусі ў цэнтры "сталіцы сьвету" // "Беларус", № 467, люты 2000), цалкам мог-бы стацца фундамэнтам добрай прадмовы.

Укладальнік кнігі М. Скобла прарабіў немалую працу па сартыроўцы часапіснага матар'ялу, адабраўшы для кнігі тое, што на ягоны густ і разуменьне вартае захоўваньня. У выніку чытач атрымаў ня столькі сам часапіс, колькі часапіс у Скоблавым уяўленьні. Вельмі дарэчы-б прыдалася калі не прадмова, дык прынамсі кароткае слова ад укладальніка, дзе-б былі патлумачаныя крытэрыі адбору. У якасьці прадмовы зьмешчаныя кароткія ўспаміны М. Наўмовіча - троху пра беларускі Парыж, троху пра сябе, троху пра Філістовіча і сам часапіс. Успаміны заўжды хараша аздабляюць кнігу, але яны рэдка калі здольныя пасьлядоўна раскрыць гісторыю прадмету. Гэтак і тут: чытач не зразумее ня толькі хто быў рэдактарам выданьня, хто - у рэдакцыі, але нават не даведаецца, што часапіс друкаваўся лацінкаю і што сам Наўмовіч да канца свайго жыцьця карыстаўся толькі ёю. Ці трэба было падаваць тэксты кірыліцаю - пытаньне таксама цікавае, хоць іншага кшталту, але адзначыць падобны факт было неабходна. Таксама неабходна было зрабіць іменны паказьнік, безь якога кожная кніга шмат губляе; скласьці камэнтары, няхай кароткія, з разьлікам на чытача-неспэцыяліста (спэцыялісту, відаць, давядзецца карыстацца усё-ж такі арыгіналам) ды патлумачыць асобныя з прыведзеных тэкстаў, хоць-бы такі, як пра сьмерць Ларысы Геніюш. У сваёй прадмове Наўмовіч спрабуе раскрыць толькі асобныя псэўдонімы, але рэдактар мусіў пазначыць, напрыклад, што Алесь Валошка ды Алесь Змагар - гэта адна й тая самая асоба з сапраўдным прозьвішчам Яцэвіч, што паэт Ул. Сноп - сьвятар Ул. Рыжы-Рыскі.

Пасьля часапісных тэкстаў, разьбітых па жанрах (арыгінальны тое падзел ці падзел укладальніка?), надрукаваныя іншыя ўспаміны Наўмовіча і некалькі лістоў - відаць, выпадкова захаваных ці ня менш выпадкова апынуўшыхся на стале укладальніка. Яны мала што дадаюць да гісторыі "Моладзі".

Асноўны корпус кнігі складаюць часапісныя артыкулы. Як мусіць успрымаць чытач - без адпаведнага гістарычнага кантэксту, без панарамнага бачаньня і разуменьня тагачаснай сытуацыі - тэксты пра 25 Сакавіка, Усяслава Чарадзея, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, К. Сваяка? Што новага ***сёньня*** ён знойдзе ў артыкулах пра Слуцкае паўстаньне, В. Ластоўскага, кітабы? Ці не падасца ***сёньня*** ў Беларусі напісанае больш за 50 гадоў таму на эміграцыі без згаданага кантэксту, без камэнтароў наіўным, састарэлым, нецікавым, адным словам, нявартасным? Уяўляецца, што падставы такдумаць ёсьць.

Пры падобнай сытуацыі як раз не канцэптуальныя артыкулы, не літаратурныя творы, збольшага ведамыя зь іншых крыніцаў, ды аўтараў, пераважна далёкіх геаграфічна ад Францыі, прыцягваюць увагу, а разьдзел "Хроніка" й мэмуары. Штосьці было ўжо вядома з кнігі М. Панькова, але нават тое, сабранае разам, набывае іншы колер - колер прысутнасьці.

Закранутыя тут спрэчныя моманты новага выданьня - зусім не спроба закрэсьліць зробленае. Наадварот! Падобная вельмі свечасовая і канцэптуальная ініцыятыва Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" можа мець зайздросную будучыню, асабліва калі ў наступных выданьнях праца рэдактара, укладальніка, камэнтатара будзе выкананая больш адказна ды прафэсыйна. А пра чарговую кнігу гаварылася на прэзэнтацыі ў Менску. Дык чакацьмем!

***А. ЛЮБІЧ***

# Яшчэ адна беларуская Адысея

**Віктар ШАЛКЕВІЧ "За сто крокаў ад Вострае брамы, альбо Геаграфія ВКЛ і ваколіцаў", Warszawa, 2003, "Megaus Productions"**




Доўга чакалі гэтага альбому прыхільнікі таленту нашага галоўнага ліцьвіна, генія беларускага кабарэ Віктара Шалкевіча: спасылкі на яго ёсьць нават на ранейшым CD "Добрай раніцы" ("БМАgroup", 2002), а прэзэнтацыя ў Менску адбылася толькі ў лютым 2004. Затое які аншляг быў! Такога Рэспубліканскі Палац Ветэранаў даўно ня памятаў.

Ужо на тым канцэрце я мімаволі спанатырыў шматаблічнасьць іміджаў Шалкевіча, ягоную здольнасьць ня толькі да трапнага гумару з палітычным сарказмам, але і да глябальных канцэптуальных праектаў. А яшчэ-ж… як нам пакуль не стае жывых відэазапісаў славутага гарадзенца, бо песьні песьнямі, а хацелася-б зафіксаваць і ягоныя паказі, рэмаркі паміж імі. Кожнае слова, вымаўленае гэтым артыстам, ператвараецца ў жывы анекдот, які, аднак, не перакажаш сваімі словамі. Адзін ён валодае ўнікальнаю творчаю мэтодаю парадоксу.

Зрэшты, анекдатычнага парадоксу хапае і ў ягоных песьнях. Нават зачарсьцьвелае пачуцьцё гумару здольныя абудзіць у слухача арыя "Пане Каханку" альбо патрыятычнае танга "Цнота", дзе даверлівая польская прастытутка аддалася шчодраму на словы паручніку і…

*...апроч таго, што злоўжываўся*
*арганізм,*
*Дык быў зьняважаны яе патрыятызм:*
*Паручнік той быў на імя Мэнахэм*
*Вольсам,*
*Паручнік быў, нажаль, жыдом і*
*камсамольцам,*
*Лічыўся лепшым ён агентам ГПУ*
*І неўзабаве зьбег з Гародні ў Маскву.*

Вось такая гісторыя надарылася ў нашых краёх "на заре Советской власти". Але ня толькі да жартаў зводзіцца канцэпцыя канкрэтна гэтага альбому. Асабіста я перакананы, што паводле пэўных крытэраў яго яшчэ назавуць эпахальным.

Мяне заўсёды захапляла ў сусьветнай папулярнай музыцы наяўнасьць грандыёзных гітоў ня толькі пра сталіцы (у нас пераважна толькі). Усе мы памятаем амэрыканскія "Mississipi Down" гурта "Christie" і "Hotel California" гурта "Eagles", "Krakowski spleen" польскага "Maanam", "Ulok A Jardan" вэнгерскай "Omega". Віктар Шалкевіч, які ня раз выяўляў сваю прыналежнасьць да грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага, вырашыў нарэшце асэнсаваць нашу радзіму цалкам гістарычна і геаграфічна, не зважаючы на чужынскія падзелы й парэзы.

"Геаграфія ВКЛ..." - гэта альбом-падарожжа. І пачынаецца ён як адысея караля Ітакі - з сталіцы. А сталіца гэтая, збудаваная нашымі продкамі, захаваўшая нават у назве прыкметы нашага этнасу - Вільня. Усе шляхі адсюль вядуць праз Вострую браму, перад якою здымаюць капялюш ня толькі героі Шалкевіча, але і пэрсанажы Зьміцера Бартосіка, Леры Сом...

Потым, не мінаючы роднае Шалкевічу Гарадзеншчыны, слухач трапляе ў самыя разныя куткі - ад цяперашняй сталіцы ("Блюз былога Ленінскага прашпэкту") да рамантычных пэйзажаў глыбінкі ("Ты сыходзіш у Койданаве").

У назве дэкляраваліся і ваколіцы нашага Княства? Безумоўна, дык як-жа не завітаць да сваякоў у Варшаву ("Wesolych Swiat") або да знаёмых у Штаты ("Кася"), як не адчуць трывожнае жыцьцё прыгранічных раёнаў вечна дзеленай кімсьці краіны ("Вызваленчы блюз").

З паўтарох дзесяткаў песьняў слухач толькі некалькі разоў натыкнецца на знаёмыя зь іншых выданьняў трэкі ("Баляда пра Сьв. Мікалая", "У Гародні дождж", "Zajtshyk-blues"), але ў кантэксьце альбому нават яны гучаць зусім інакш. Дый запісаныя яны іншым музычным кантынгентам: акрамя Віктара Шалкевіча (вакал, гітара) тут гралі Анатоль Кандыба (клявішныя), Яўген Шчарбакоў і Хведар Жыляк (гітары), Вячаслаў Банкевіч (бас-гітара), Мікола Хрысьціч (бубны), Валянтына Калініна (віяланчэль), Люсьена Банкевіч (скрыпка), Георгі Белавесаў (труба), Уладзімер Міхновіч (клярнэт).

Геаграфічны характар мае і мастацкая аздоба альбому "Геаграфія ВКЛ і ваколіцаў" (Сяргей Улазоўскі ды Сьвятлана Агурцова), але гэта ўжо геаграфія падарожжаў самога Віктара - імянныя чыгуначныя і паветраныя квіткі з пазначанымі пунктамі Менск, Варшава, Франкфурт, Чыкага... А на фоне геаграфічнай мапы паміж Менскам і Чыкага надрукавана ўступнае слова самога барда.

Дарэчы, толькі на жывым канцэрце ў Менску слухачы даведаліся, што гістарычны фотаздымак на самым дыску прадстаўляе акурат амэрыканскага дзеда Віктара Шалкевіча ў пору ягонай маладосьці. Сфатаграфаваўся ён у нейкім нью-ёрскім атэльe.

Дарэчы, амэрыканскія беларусы прынялі чынны ўдзел у спрыяньні выхаду гэтага дыску. Побач зь імёнамі суайчыньнікаў і польскіх сяброў Віктар згадвае ў падзяках і ведамых усім дзеячаў эміграцыі: Юлію Андрусышыну, Аллу Орса-Романо, Антона Шукелойця ды іншых. І нават у самых гэтых імёнах выяўляецца бязьмежная беларуская геаграфія.

Першы дзень продажу, калі адразу было прададзена 10% агульнага накладу выданьня, прадказаў гэтыму праекту спрыяльны лёс. Дай Бог, бо такія цэльныя асобы, як Віктар Шалкевіч, заслугоўваюць гэтага. У журналісцкіх кулюарах нехта назваў яго "N.R.M."ам бардаўскай песьні, бо ведама, што "N.R.M." - гэта брэнд №1 у беларускім року, імпрэзы зь якім заўсёды бяспройгрышныя. Дык вось-жа ня толькі рокам сёньня жыве Беларусь!

Стылістычна ў песьнях Шалкевіча ёсьць месца і вірліваму танго, і пяшчотнаму блюзу, тонкай інтымнай лірыцы й замешанаму на танцавальных рытмах палітычнаму гумару.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***




**Каб замовіць гэты CD поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі газэты "Беларус".**

## Мова - Гісторыя - Дзяржава

*Працяг з бачыны 4*

цёва цягне за сабою і адчыне ва ўжытак духоўна-інтэлектуальнага развіцьця народу ўвесь фонд вялікай беларускай гісторыі. А гэта (зноў-жа падкрэсьлім) ня толькі этнічная культура, зафіксаваная ў вусных паданьнях, але і культура вялікай магутнай дзяржавы, якая трымала ў сваім парадку ўвесь усход геаграфічнай Эўропы, у тым ліку і дзяржаўныя ўтварэньні Ўсходу, што пазьней, аб'яднаўшыся зь немцамі, спрычыніліся да ўпадку нашай краіны, да культурнага, этнічнага і фізычнага вынішчэньня беларускай нацыі.

Грамадзкае адчыненьне гісторыка-культурнага фонду нацыянальнай памяці, якое адбываецца праз мову (праз увядзеньне яе ў вышэйшыя сфэры грамадзкага існаваньня), спрыяе адраджэньню гістарычнай сьведамасьці, стымулюе творчае развіцьцё асобы, нараджае ідэалы будучыні, фармуе нацыянальную ідэю свабоды й незалежнага развіцьця нацыі.

* * *

Утварэньне такой незалежнай дзяржавы як Эстонія, па вялікім маштабе, практычна, не ўшчымляла нічыіх інтарэсаў, акрамя агрэсіўных памкненьняў Расеі да захопу чужых тэрыторыяў. Тым часам нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне Беларусі - гэта цэлая перабудова сьвету ў сьведамасьці Расеі. Абвальваюцца цэлыя культуралягічныя сыстэмы, пабудаваныя на міталёгіі, прысвоеньні й хлусьні, развальваюцца звыклыя, штучна створаныя ўяўленьні, зьмяняецца геапалітыка.

Паўстаньне з попелу Фэнікса Беларусі, якую ўжо звалілі, распласталі, два стагодзьдзі прадумана і мэтанакіравана нішчылі, тапталі, прасавалі, глумілі, тахцілі зь гіканьнем і сьвістам, скошвалі кожнае пакаленьне і ўсім хацелі даказаць, што нічога беларускага няма, - паўстаньне незалежнай Беларусі й адраджэньне беларускай мовы сталася шокам для вялікадзяржаўнай Масквы. Невыпадкова ў зьнешнепалітычнай дактрыне Расеі, сфармуляванай пры Ельцыне ў 1995 годзе, Беларусь і заходні напрамак аб'яўленыя галоўнымі ў расейскай экспансіі. (Заўважце, ня поўдзень, не Каўказ, не Чачэнія, дзе ідзе вайна, а Беларусь).

Захоп улады ў Беларусі знутры сіламі расейскіх спэцслужбаў у 1994-1996 гадох выявіў найбольш характэрныя рысы расейскай антыбеларускай палітыкі. З чаго пачалася новая акупацыйная дзейнасьць? З кантролю над інфармацыяй і з падрыхтоўкі рэфэрэндуму, пытаньні якога былі накіраваныя на зьнішчэньне беларускай мовы, на ліквідацыю нацыянальнага герба і сьцяга і на падрыў суверэнітэту краіны. Вась што было для Масквы галоўным і найвышэйшым.

11-га красавіка 1995 году дэпутацкая апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце зрабіла адчайную спробу ўплыву на перастрашаных рэжымам дэпутатаў парляманту (аб'явіла сядзячую галадоўку ў зале) з мэтаю не дапусьціць прыняцьця антыканстытуцыйных пытаньняў рэфэрэндуму. Фронтаўцы выйгралі. Антыканстытуцыйныя пытаньні не прайшлі, былі адмененыя галасаваньнем.

Гэта абазначала крах антыбеларускай палітыкі ў самым пачатку. Тады рэжым, ламаючы законы й нормы, зрабіў грубы й авантурны крок. Ноччу 12 красавіка Лукашэнка ўвёў войскі ў парлямант (батальён "спэцназу"). Зьбілі дэпутатаў Народнага Фронту і сілаю вывезьлі з парляманту.

Далейшыя падзеі ведамыя. Нараніцы дэпутаты БНФ зьвярнуліся ў пракуратуру, і Генэральны пракурор узбудзіў крымінальную справу па факту ўводу войскаў у парлямант і зьбіцьця дэпутатаў. Тут-жа нараніцы Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету прымае рашэньне аб пастаноўцы пытаньня на Сэсіі аб абмежаваньні, згодна з Канстытуцыяй, дзейнасьці прэзыдэнта Лукашэнкі ў сувязі з узбуджэньнем крымінальнай справы. Лукашэнка акружае міліцыяй і войскам парлямант, не пускае на сэсію "не сваіх" дэпутатаў, і ў гэты час, парушаючы працэдуру і Закон аб рэгляманце, прымушае правесьці незаконнае перагаласаваньне рашэньняў, прынятых 11-га красакавіка па пытаньнях рэфэрэндуму.

Гэтак вяваў прамаскоўскі рэжым з "выпачиванием белорусского языка" ды з "флажками" (як яны раней казалі, нападаючы на БНФ). На карту ставілася ўсё. Ішлі на адкрыты крымінал, гатовыя былі на забойствы (я ўжо не кажу пра лістападаўскі пераварот у 1996-м).

Далейшыя дзеяньні рэжыму таксама ведамыя. (Зачыненьне беларускіх школаў, спаленьне беларускіх падручнікаў для школаў, захоп беларускіх выдавецтваў, абмежаваньне выданьняў беларускіх кнігаў і часопісаў, ліквідацыя беларускіх радыёстанцыяў, выгнаньне беларускай мовы з тэлебачаньня, зачыненьне беларускіх газэтаў, перасьлед арганізацыяў і людзей, што актыўна абараняюць беларускую мову, траўля Васіля Быкава, рэжымны русыфікацыйны кантроль над вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, над Акадэміяй Навук і г. д.)

* * *

Лукашэнка як русыфікатар і разбуральнік беларускай культуры ёсьць для Масквы вельмі каштоўным стаўленьнікам. Пра гэта маскоўцы не стамляюцца казаць, але адносяцца да яго з грэблівасьцю і непавагаю (маўляў, "наш сукин сын", - гэтак абразьліва і пішуць). Такая ёсьць расейская мэнтальнасьць. Акрамя таго, што "Масква слезам не верит", яна ніколі не паважае залежных ад сябе (лакеяў, здраднікаў, стаўленьнікаў, марыянэтак і г. д.), ці гэта Лукашэнка, ці Гамулка, ці Гусак, ці які-небудзь Кошут. Маскву раздражнее словаблудзтва, настырнасьць і прэтэнцыёзнасьць Лукашэнкі. Яго паспрабавалі-б замяніць, калі-б знайшлі лепшага, ці хаця-б такога-ж, але без залішніх прэтэнзіяў. І пошукі Масква вядзе.

Усё гэта я тут узгадваю дзеля таго, каб адзначыць, што чарговы кандыдат на стаўленьніка, акрамя таго, што ён мусіць быць кадраваю асобаю КГБ (ці хаця-б зьвязанаю з КГБ), абавязкова павінен будзе засьведчыць Маскве сваё непрыязьнь да беларускай мовы й прыхільнасьць да "інтэграцыі" (злучэньня) з Расеяй. Гэта неабходная ўмова для стаўленьнікаў Масквы ў Беларусі. Некаторыя зь цяперашніх так званых "апазыцыйных дэмакратаў", зразумеўшы кан'юнктуру, ужо сталі, як школьнікі, наперабой цягнуць ручкі ды пасьпешна выказвацца супраць мовы й "нацыяналізму". (Ану-ж заўважаць, дадуць грошай, ану-ж пашанцуе!)

Нават пабежны погляд на цяперашнюю маскоўскую антыбеларускую палітыку дазваляе адразу ўбачыць, што расейцы (расейскі КГБ) дасканала разумеюць становішча. Зьнішчэньне беларускай мовы яны разглядаюць не як тактычную, не як дапаможную задачу дзеля інкарпарацыйнай мэты, а як галоўны стратэгічны накірунак у пазбаўленьні беларускай нацыі здольнасьці да культурнага існаваньня і да супраціўленьня экспансіі.

Беларускае грамадзтва цяпер яшчэ не гатовае адэкватна разумець і рэагаваць на такую палітыку, бо ня выйшла яшчэ са стану савецкага духоўнага калапсу, а інтэлігенцыя (якая зьяўляецца часткай гэтага грамадзтва) не набыла волі да палітычнага змаганьня.

Гэта ня значыць, аднак, што ва ўмовах унутраннай акупацыі ўсе адукаваныя людзі павінны займацца палітыкай і не рабіць пазытыўную культурную працу. Тут справа выбару. Але размова ідзе пра прыярытэты. У тым становішчы, у якім апынулася нашая краіна, прыярытэт палітыкі бясспрэчны. Ад яе ніхто не схаваецца. А калі хто і схаваецца, то палітыка яго ўсяроўна дастане, бо змаганьне ідзе за ўсю Беларусь. Вось чаму адзін зь ведамых цяперашніх лёзунгаў беларускага Адраджэньня гучыць так: "Не правы чалавека - галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае "правоў чалавека" пад акупацыяй".

Гэта сэнтэнцыя дзеля высьвятленьня прыярытэту. Палітычная барацьба за захаваньне дзяржаўнай незалежнасьці й за нацыянальную свабоду ёсьць галоўная, гэта ёсьць звышзадача і прыярытэт. І гэта не азначае, што ня трэба змагацца за правы чалавека. Але калі змагацца толькі за правы чалавека, ігнаруючы пагрозу незалежнасьці дзяржавы з боку Расеі (на што штурхаюць увесь час беларускую "апазыцыю ўплыву" заходнія лібэралы, якія дружаць з дыктатарскай Масквой), то зразумела, што ў выніку ня будзе ні "правоў", ні незалежнасьці.

Калі мы маем ужо незалежную дзяржаву, і калі існуе пагроза незалежнасьці нашай дзяржавы, - прыярытэт палітыкі, накіраванай на абарону і захаваньне незалежнасьці, ёсьць галоўным. Бо толькі маючы дзяржаву, можна ў прынцыпе вырашаць пытаньні нацыянальнага развіцьця (і правоў чалавека, і адраджэньня беларускай культуры, мовы, будаўніцтва нацыянальнай адукацыі й г. д.).

Тым часам абсурдна выключаць пазытыўную працу ў цэлым (бо жыцьцё *не мусіць спыніцца*), ці наадварот - адмаўляць палітычную дзейнасьць і заклікаць займацца не палітыкай, а толькі пазытыўнай працай (скажам, выключна прапагандаю беларускай мовы, пакольkі яна галоўная каштоўнасьць нацыі й г. д.)

Прыклады, якія я прывёў, ня маюць дачыненьня ні да тэорыі, ні да здаровага сэнсу і раздражняюць сваёй прымітыўнасьцю. Але трэба было пра іх сказаць, бо, нажаль, гэта тыповыя ўзоры агентурных пастановак па дыскрэдытацыі адраджэнцкага руху, разьлічаныя на няспелаласьць масавай сьведамасьці людзей, улучаных у палітыку ды, магчыма, - разьлік на прыродную неахвоту да аналізу і да ўсялякага неканкрэтнага думаньня. Такі ёсьць цяпер узровень нашай грамадзкай рэчаіснасьці, які таксама трэба прымаць пад увагу.

Існуюць, і больш выробленыя псэўдаідэі супраць беларускай мовы й Адраджэньня, распрацаваныя расейскімі гэбоўскімі інтэлектуаламі. Адна зь іх гучыць так: мова, маўляў, ня мае значэньня ў нацыянальным будаўніцтве. Беларуская нацыя, нібыта, можа існаваць і з расейскаю моваю. (Гэта як "беларуская школа" з расейскаю моваю навучаньня). Існуе-ж, маўляў, з ангельскаю моваю Ірляндыя.

Пра розныя ўмовы й чыньнікі нацыянальнай дзяржаўнасьці ў сьвеце я ўжо казаў. Параўнаньне Беларусі з Ірляндыяй (ці, калі-б было, з Швайцарыяй, краінамі Лацінскай Амэрыкі, альбо Афрыкі ці Азіі) некарэктнае, бо прыклады адносяцца да розных тыпалёгіяў.

З прычыны абставінаў, галоўнымі кансалідуючымі фактарамі ірляндзкага нацыянальнага руху сталі каталіцызм - гісторыя - нацыянальная дзяржава. Бальшыня ірляндцаў - каталікі. Супраціўленьне ангельскай экспансіі пасьля страты незалежнасьці ў XVI стагодзьдзі ішло па рэлігійнай мяжы. Прытым ірляндцы былі ў абароне. Абарона супольных каштоўнасьцяў ад агрэсіі, змаганьне ў аблозе спараджае моцнае пачуцьцё салідарнасьці й часам псыхалёгію гета (абвостраную рэакцыю па лініі "свой-чужы"). Каталіцызм стаў першаснай каштоўнасьцю ў самастойным выжываньні ірляндцаў і ў стварэньні імі незалежнай дзяржавы і застаецца галоўным незалежніцкім чыньнікам па сёньняшні дзень. Істотна ўзмацняла гэты чыньнік тое, што Ірляндыя разьмешчаная на востраве, ня мае памежных суседзяў, акрамя Англіі (і ня мела іншых ворагаў, акрамя Англіі).

Беларусь жа - кантынэнтальная краіна, мяжуе зь пяцьцю дзяржавамі. Абарона нацыянальнай тоеснасьці пасьля страты незалежнасьці ў канцы XVIII стагодзьдзя вялася на два канцы, па лініі Ўсход-Захад (надзвычай нязручная абарона для кансалідацыі грамадзтва).

У расейскім заборы Беларусь пацярпела канфэсійны крах. Была гвалтам ліквідаваная Вунія - аб'ядноўваючая канфэсія беларусаў. На сёньняшні дзень у Беларусі тры асноўныя хрысьціянскія канфэсіі, якія кіруюцца з чужых замежных цэнтраў. Поўнасьцю адсутнічае агульнанацыянальны чыньнік канфэсійнай кансалідацыі. Наадварот, тут схаваная патэнцыяльная пагроза разлому грамадзтва, які ўсяляк хочуць справакаваць непрыяцелі беларускай незалежнасьці.

* * *

Беларускую нацыю, паўтаруся, кансалідуе найперш беларуская мова і адчыненая праз яе гісторыя (куды ўваходзяць таксама звычаі й традыцыі) і аб'ядноўвае нацыянальная дзяржава, заснаваная на гэтых кансалідуючых фактарах і нацыянальных інтарэсах. Вось падмурак і грунт, на якім стаім і можам быць.

Ліквідацыя беларускай мовы няўхільна спыніла-б працэс нацыянальна-культурнага развіцьця, размыла-б базу нацыянальнай лучнасьці грамадзтва. Застаўся-б, аднак, фактар канфэсійнага падзелу, які абвастрыўся-б з павелічэньнем расейскай экспансіі й вынішчэньнем усяго беларускага. Прытым працэс татальнага вынішчэньня ўсяго беларускага стаўся-б непазьбежным, адбываўся-б абавязкова (гэтак-жа, як ідзе ён ужо цяпер, толькі тады шматкроць узмацніўся-б), бо расейская мова ў Беларусі ня ёсьць нэўтральнай. Гэта мова агрэсіўнага боку, які мае прэтэнзіі на Беларусь, праводзіць палітыку інкарпарацыі й экспансіі, дзе сама расейская мова зьяўляецца сродкам захопніцкай палітыкі.

Беларуская нацыя як супольнасьць у схеме расейскай мовы ня можа існаваць. Яна прымусова асымілюецца, нішчыцца, зьнікае. Адпаведна зьнікае і беларуская дзяржава.

Уся гісторыя беларускага руху, нацыянальнага Адраджэньня і стварэньня беларускай дзяржавы - гэта *перш за ўсё* гісторыя барацьбы за ўсталяваньне беларускай мовы й адначасна - гэта гісторыя змаганьня з расейскаю моваю як з сродкам вялікадзяржаўнай русыфікатарскай палітыкі.

Таму агентурны тэзіс пра беларускую нацыю з расейскаю моваю - гэта русыфікатарскі анахранізм, адгалосак даўняй шавіністычнай канцэпцыі "западноруссизма" і на сёньня проста глупства, такаяж заведамая фальш, як і "правы чалавека" без незалежнасьці пад акупацыяй, толькі сфармуляваная ўсё на іншым узроўні.

Перад беларускай нацыяй і дзяржавай вялікі шлях. Шмат праблемаў і дзейнасьці вымагае аналізу і абагульненьня. Аднак сёньня рэчаіснасьць такая, што трэба вяртацца да таго, што зрабілі (ці чаго не зрабілі) сто гадоў таму, каб зноў пазнаць, паўтарыць ці растлумачыць, каб яшчэ раз разглядзець зьявы, што ўжо разгледжаныя, нават тыя, што не дыскутуюцца, пра што ўжо ў іншых месцах не гавораць. І тым ня менш, нам гэта трэба рабіць. Бо перарывалася цягласьць пакаленьняў і рух нацыянальнай гісторыі.

Ніщто, ніякія цяжкасьці нацыянальнага лёсу ня мусяць спыняць поступ беларускай нашай хады. Крок за крокам, дзень за днём мы імкнемся наперад, адступаючы, вяртаемся і, пераганяючы, мы ідзем у нашу лепшую будучыню.

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Марыя МАРКЕВІЧ
## (02.02.1928 - 05.03.2004)



Сьвятой памяці Марыя Маркевіч нарадзілася ў Чэхаславаччыне. Потым лёс завёў яе, а пазьней і ўсю сям'ю ў Баварыю (Нямеччына). Там яна выйшла ў 1951 годзе замуж за беларуса Антона і нарадзіла дачку Веру нам на радасьць.

Як і было ўзгоднена, мы ўсе ўтрох апынуліся ў 1955 годзе ў Таронта (Канада), дзе і пасяліліся настала. Тут-жа ўлучыліся ў беларускае грамадзкае жыцьцё. Марыя, хоць і іншаземка, старалася ўсім магчымым дапамагаць у нашай дзейнасьці ў Таронта, даглядала дачку: каб была ў школцы, у танцгуртку. І яшчэ, яна надзвычай добра ўмела прыняць і пачаставаць простых і высокіх гасьцей. Часта дапамагала рыхтаваць сяброўскія вечарыны ў залі БР-ГЦ (яе стравы хутка зьнікалі са стала).

Варта дадаць, што Марыя разам са мною мела гонар быць запрошанаю на адкрыцьцё сэсіі Парляманту Канады ў Атаве, дзе яна пасябравала зь міністаркай Іміграцыі й Грамадзянства спн. Фэйрклоў...

Праз пару гадоў пасьля прыезду Марыя ўладкавалася на працу ў Spar Aerospace Co., дзе адпрацавала 30 гадоў з паважнымі заслугамі. Яна была адказнаю працаўніцаю ў тэхнічным аддзеле, дзе выраблялiся важныя часткі для касьмічных спадарожнікаў. Яна працавала з астранаўтамі, якія прыяжджалі ў кампанію на трэніроўкі. Калі надыйшоў час ісьці на пэнсію, кампанія ўгаварыла яе працягнуць кантракт, бо цяжка было знайсьці ёй замену...

У свой час Марыя сьцягнула ў Канаду свайго брата Франка Токара, яна ўладкавала яго на фабрыку. Справы ў брата пайшлі добра, праз колькі гадоў ён перабраў тую фабрыку ў свае рукі й на сёньняшні дзень зрабіўся мільянэрам...

Сьв. памяці Марыя пакінула ў смутку дзяцей Веру, Тэда, Стася, Антанету, як і мужа Антона. Хай ёй будзе пухам канадыйская зямелька.

*А.-віч*

# Янка БАРАН
## (14.09.1923 - 26.03.2004)

Народжаны ў Сьвіла, што на ўсход Крулеўшчыны, Докшыцкага раёну. Памёр у канадыйскім горадзе Таронта. Паховіны адбыліся 29-30 сакавіка.

Выкінуты з роднай вёскі й Беларусі Другою Сусьветнаю вайною, Янка з 1950-х гадоў XX ст. належаў да Згуртаваньня Беларусаў Канады й парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага БАПЦ. Янка Баран быў ведамы сваёй дабрачыннасьцю ў грамадзкім, рэлігійным і культурным полі беларускага эміграцыйнага жыцьця.

Нашая вялікая пашана Янку. Вечная памяць.

*К. АКУЛА*

***Газэта "БЕЛАРУС"***
***бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

Фонд **ДАР САКАВІКА** атрымаў наступныя ахвяраваньні

| | | | |
|---|---|---|---|
| М. К. Браздоўскі | 50 | У. Акавіты | 50 |
| Я. і М. Броды | 50 | І. Ільчук | 40 |
| Сям'я Глаксон | 50 | П. Каян | 40 |
| К. Ворт | 50 | а. М. Бурнос | 36 |
| М. Грэбень | 50 | С. і Н. Дудар | 35 |
| Я. Арцюх | 50 | Ю. Гулік | 25 |
| С. Будкевіч | 50 | Я. і Н. Крэслы | 25 |
| Л. Бакуновіч | 50 | М. і Н. Абрамчыкі | 20 |
| Л. Літаровіч | 50 | Д. Атрахімовіч | 20 |
| А. Курушка | 50 | М. Гутырчык | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 50 | Я. Сіманюк | 20 |
| Н. Рагуля | 50 | А. Клімовіч | 15 |
| М. і В. Сьнежкі | 50 | Л. Маркоўская | 10 |
| Я. Шыбут | 50 | Л. Якоўлева | 10 |
| Т. Стагановіч | 50 | | |

Шчыры дзякуй!



Паважаную Алу **КУЗЬМІЦКУЮ** віншую зь днём народзінаў!

Зычу шчасьця, бадзёрасьці, цудоўнага настрою і моцнага здароўя.

*Анатоль Тальянскі*

**Шукаю Віктара СЯНКЕВІЧА таго, што нарадзіўся ў Гірстунах каля Глыбокага, і які з Гішпаніі, пасьля працы на Радыё Свабода, перабраўся ў ваколіцу Сан-Францыска.**
**Пішыце на адрас:**
***K. Akula, 57 Riverdale Ave, Toronto, Ont M4K 1C2 CANADA***

**Сёлета плянуецца групавая паездка ў Беларусь. Гэта будзе залежаць ад колькасьці жадаючых. Паездка будзе ці ад 12 чэрвеня да 26, ці ад 28 чэрвеня да 12 ліпеня. Калі ляцець да 15 чэрвеня, то квіткі на самалёт на $240 таньней.**

**На першыя 4-5 дзён плянуецца вандроўка па беларускіх гарадох і славутых мясьцінах. Першы варыянт: Полацак, Віцебск, Магілёў, Гомель; другі: Тураў, Пінск, Берасьце, Горадня, Жыровічы, Нясьвіж.**

**Зацікаўленыя паехаць як найхутчэй патэлефануйце Жоржу Наумчыку па нумару: (723) 257-8431 альбо напішыце на адрас:**
***George Naumczyk***
***42 Colin Dr***
***South River, NJ 08882***

**Тэатар *"Бераг белых буслоў"* з Буда-Кашалёва і іхні дырэктар Мікола Котаў зьвяртаюцца з просьбаю аб дапамозе, каб надалей працягваць Беларускую Традыцыю - песьні, народную музыку і танцы. Цяжка пакрыць выдаткі на музычныя інструманты й строі.**

**Усю душу ўкладаюць у працу зь дзецьмі й кіраўнікі Людміла Лікашова і Валянціна Смольнікава. Дзякуючы такім захопленым людзям, беларускае народнае мастацтва знаходзіць шлях да сэрцаў суайчыньнікаў і на абсягах Эўропы. Нядаўна тэатар выступаў у гарадох Нямеччыны. Ахвяраваньні, калі ласка, дасылайце:**
***Ms. Louise Colin***
***347 Orchard Rd***
***Wykoff, NJ 07481-2207***
**Наперад усім ахвярадаўцам шчыры дзякуй.**



*На здымку: юныя артысты, другі зьлева Мікола Котаў.*

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| П. Касаты | 100 |
| Д. Молчан | 80 |
| Ж. Навумчык | 75 |
| М. Дэмковіч | 50 |
| Л. Кавалёў | 50 |
| М. Касьцюк | 50 |
| К. Маталыцкі | 50 |
| С. Шабовіч | 50 |
| М. Чупракоў | 40 |
| С. і Н. Дудар | 35 |
| Ю. Андрусышын | 30 |
| В. Махнач | 30 |
| А. Міцкевіч | 30 |
| В. Станкевіч | 30 |
| А. Тальянскі | 30 |
| А. Маркевіч | 20 |

**Заміж кветак на магілу Віталя КАЖАНА:**

| | |
|---|---|
| Сям'я Кажан (Люба Кажан, Ларыса Дубовік, Маргарэт і Робэрт Бразоўскі, Аўген і Боні Кажан, Юля Кажан і Эдвард Буратынскі, Эрык і Шырлэй Дубовік, Алекс Дубовік) | 1500 |
| Я. і К. Вініцкія | 100 |

**Заміж кветак на магілу Янкі БАРАНА:**

| | |
|---|---|
| К. Акула | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
***Выдае штомесячна:***
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Сусьветнае сеціва:** baza-belarus.org
***Падпіска $30 на год.***
***Чэкі выпісвайце на BIELARUS***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by***
***BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***
***Make checks payable to BIELARUS***
***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*
***Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***
**© BIELARUS, 2003**
**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org
ISSN 1054-9455
***Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.***